*Прачытай сам і перадай другому.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 73 (4531)**

15 верасня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

**ЛЁСАВЫЗНАЧАЛЬНЫЯ ДНІ**

## Тры чалавекі загінулі падчас пратэстных акцый – Генадзь Шутаў у Брэсце, Аляксандр Тарайкоўскі ў Мінску, Аляксандр Віхор у Гомелі, сотні траўміраваных, больш за 10.000 затрыманняў грамадзян сілавікамі, 58 палітычных зняволеных – вось няпоўны рахунак рэпрэсій у Беларусі за апошнія месяцы. Чаму, скажыце, чаму нельга было ўладам правесці чэсна, дэмакратычна, без паўсюдных фальсіфікацый прэзідэнцкія выбары? А цяпер беларускі народ працягвае бараніць свае законныя правы, сваю годнасць. Вось што адбывалася ў Мінску ў мінулыя выхадныя.





















(Працяг тэмы на 2-й стар.)

НА СВЯЗИ – СОЧИ

# Российский кредит на 1,5 миллиарда долларов – очередная удавка для Беларуси

Москва выдаст Минску кредит в размере 1,5 миллиарда долларов, сообщил президент России Владимир Путин в ходе встречи с Александром Лукашенко, которая вчера прошла в Сочи.

Сумма как будто солидная, но это если не считать, что внешний госдолг Беларуси на 1 июля 2020 года составил 18 миллиардов долларов. Он вырос на 0,9 миллиарда с января по июнь и еще на 1,2 миллиарда в июне. В 2020 году нашей стране нужно выплатить по долгу около 3,6 миллиарда долларов.

Комментируя продолжающиеся в Беларуси протесты, начавшиеся после президентских выборов в августе, Владимир Путин сказал, что белорусы должны сами, *«без давления извне»* разобраться в ситуации. *«Мы за то, чтобы белорусы сами, без подсказок и давления извне, в спокойном режиме и диалоге разобрались в этой ситуации и пришли к общему решению»*, – отметил он.



Такого разговора у них еще не было.

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Кто отправил Марию Колесникову под арест?

*«Народная Воля» поинтересовалась, кто из Следственного комитета подписывал постановление об избрании меры пресечения Марии Колесниковой и кто из руководителей Генеральной прокуратуры Республики Беларусь давал санкцию на ее арест.*

*«Выносил его руководитель следственной группы, а санкцию давал заместитель генерального прокурора, правда, на постановлении не указано, кто именно»*, – сказала «Народной Воле» один из адвокатов Марии Колесниковой **Людмила Казак**. – *В шапке постановления написано «генеральный прокурор Конюк», а слева от руки написано «зам» и стоит подпись. А кто этот заместитель – не понятно, по подписи я идентифицировать не могу. Могу точно сказать, что это не заместитель генерального прокурора **Алексей Стук**, потому что его подпись я знаю»*.

Подпись, которая стоит на документе, не похожа и на автограф заместителя генпрокурора **Геннадия Дыско**.

У Генерального прокурора есть еще два заместителя – **Александр Михайлович ЛАШИН**, он раньше работал заместителем Белорусского транспортного прокурора, и **Дмитрий Юрьевич ГОРА**, бывший начальник следственного управления КГБ. Чисто теоретически и один, и другой могли дать санкцию на арест Колесниковой. Но адвокаты Колесниковой не могут разобрать, кто из них подписался: *«Не ясно, чья подпись стоит на документе, трудно идентифицировать»*.

Например, известно, что в свое время санкцию на арест экс-командира СОБРа **Дмитрия Павличенко** давал заместитель генерального прокурора **Михаил Снегирь**. Можно сказать, из-за этого документа он вошел в историю.

«Народная Воля» попыталась получить официальный ответ у пресс-службы Генпрокуратуры, кто из нынешних замов генпрокурора отправил Колесникову под арест.

*«У нас такой информации сейчас нет*, – ответили там. – *Возможно, позже появится, тогда сообщим»*.

**Марина КОКТЫШ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Звальненні без аглядкі

*Двое рабочых ААТ «Гомсельмаш» спрабуюць аднавіцца на працы праз суд*

У судзе Чыгуначнага раёна Гомеля адбыўся папярэдні разгляд іскаў двух рабочых да дырэкцыі ААТ «Гомсельмаш».

Малады электраманцёр **Арцём Савіцкі** і 47-гадовы токар 6-га разраду **Валерый Крахмалаў** не пагадзіліся са звальненнем з прадпрыемства па ініцыятыве наймальніка і праз суд спрабуюць аднавіцца на працы.

Яны лічаць, што іх звольнілі за ўдзел у страйку, хоць у загадах указаны пункт 6 артыкула 42 Працоўнага кодэкса – за невыкананне без уважлівых прычын працоўных абавязкаў, маючы нязнятае (непагашанае) дысцыплінарнае спагнанне.

Пра гісторыю звальнення электраманцёра Савіцкага «Народная Воля» расказвала ў артыкуле «Што ты бегаеш па заводзе, страйкі ладзіш?!», змешчаным у № 68 за 28 жніўня. Коратка сітуацыя выглядала так. Арцём 14 жніўня выйшаў разам з іншымі рабочымі да прахадной, каб патрабаваць адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі, вызвалення ўсіх затрыманых за акцыі пратэсту супраць агучаных Цэнтрвыбаркамам вынікаў галасавання, а таксама пакарання вінаватых ў гвалту над мірнымі дэманстрантамі. Рабочых перастрэла сяльмашаўскае начальства. Усіх вярнулі на працоўныя месцы. Да месца збору каля транспартнай прахадной дабраліся толькі лічаныя працаўнікі, у тым ліку і Савіцкі.

У наступны працоўны дзень, 17 жніўня, цэхавае начальства моцна кантралявала Арцёма Савіцкага. Яну загадалі рамантаваць электрапераключальнік у невялікім службовым памяшканні майстра.

«Недзе каля дзесятай гадзіны я хацеў выйсці ў прыбіральню, але дзверы былі замкнёныя», – расказаў Арцём у судзе.

Ключа ў хлопца не было. Ён зняў на тэлефон і выклаў у інтэрнэт кароткае відэа пра сваю ізаляцыю. Гэта было расцэнена адміністрацыяй прадпрыемства як невыкананне працоўных абавязкаў ды яшчэ з парушэннем унутрыаб'ектавага рэжыму, бо здымаць на тэрыторыі завода хоць што без спецыяльнага дазволу забаронена.

Прадстаўнік юрыдычнага ўпраўлення «Гомсельмаша» **Іван Пархоменка**, які па даверанасці прадстаўляў у судзе інтарэсы наймальніка, з іскамі рабочых на аднаўленне на працы не пагадзіўся. Тлумачыў, што, у прыватнасці, у Савіцкага ёсць непагашанае дысцыплінарнае спагнанне – заўвага за пераход сёлета ў ліпені чыгуначнага палатна ў неналежным месцы. Савіцкі быў здзіўлены спагнанню. Так, ён пісаў тлумачальную наконт недарэчнага пераходу чыгуначных рэек на тэрыторыі завода па-за межамі пераходу, але пра заўвагу нічога не ведаў. Заявіў у судзе, што пад распараджэннем на азнаямленне стаіць не яго подпіс. Да таго ж звольнілі Арцёма 21 жніўня, калі афіцыйна ён быў у адпачынку за свой кошт.

Электраманцёр Савіцкі і яго прадстаўнік у судзе, рэгіянальны прававы інспектар незалежнага прафсаюза РЭП **Леанід Судаленка** лічаць, што адміністрацыя «Гомсельмаша» адмыслова «накруціла» спагнанне, каб звольніць няўгоднага работніка.

Падобны канфлікт з наймальнікам, хоць і са сваімі адметнасцямі, і ў токара **Валерыя Крухмалава**. Ён 17,18 і19 жніўся адмовіўся ад выканання зменных заданняў па рамонту абсталявання. У журнале запісаў: *«У мяне забастоўка»*. Тры дні прыходзіў на працу, але нічога не рабіў.

*«Мае патрабаванні – палітычныя, я падтрымаў забастоўку ў краіне»*, – сказаў у судзе токар Крухмалаў.

Суддзя Юліяна Файзуліна, якая разглядае абодва іскі сяльмашаўцаў, пацікавілася ў Крухмалава, адкуль ён даведаўся пра страйк, бо ў Беларусі нічто яго не абвяшчаў.

*«Я ў СМІ прачытаў інфармацыю аб тым, што прадпрыемствы страйкуюць. Таму вырашыў далучыцца»*, – адказаў токар.

Валерый Крухмалаў не аспрэчвае ў судзе невыканання працоўных заданняў у жніўні. Ён дамагаецца адмены вымовы за відэафіксацыю на свой мабільны тэлефон канфлікта на прахадной. У чэрвені, калі токар пасля змены выходзіў з завода, кантралёр Лазоўская, грэбуючы правіламі бяспекі падчас эпідэміі CAVID-19, корпалася ў яго тэчцы, не апрацаваўшы антысептыкам пальчаткі, прымушала выкладваць рэчы на стол, які таксама не быў прадэзінфікаваны пасля папярэдняга дагляду.

«Я вымушаны быў зняць усё гэта на відэа, каб даказаць, што правіла засцярогі ад каранавіруса на прахадной парушаюцца», – тлумачыў свой учынак звольны рабочы.

Відэаздымкі ў сукупнасці з трохдзённым страйкам, паводле тлумачэнняў прадстаўніка «Гомсельмаша» Пархоменкі, і ўтвараюць сістэму невыканання працоўных абавязкаў. Асюль і звальненне.

Асноўныя судовыя пасяджэнні па разглядзе іскаў рабочых да дырэкцыі ААТ «Гомсельмаш» прызначаныя на бліжэйшыя дні. Суд абавязаў прадстаўніка прадпрыемства забяспечыць яўку шэрагу сведкаў, дадыных да канфлікта на заводзе, а таксама запатрабаваў па згаданых справах дадатковыя дакументы.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ЛЁСАВЫЗНАЧАЛЬНЫЯ ДНІ

# Беларускі народ змагаецца за сваю будучыню

*(Працяг тэмы. Пачатак на 1 стар.)*

Затрыманні ўдзельнікаў нядзельнай акцыі пачаліся яшчэ да пачатку маршу ў розных пунктах горада – сілавікі спрабавалі не пусціць людзей у цэнтр. Затрыманні адбываліся ў раёне метро «Грушаўка», на вуліцах Маякоўскага, Залатая Горка, Кузьмы Чорнага, Сурганава і ў іншых месцах.

Нягледзячы на гэта, да 15.00 на праспекце Пераможцаў сабраліся дзясяткі тысяч чалавек. Спачатку яны рушылі ў накірунку стэлы «Мінск – горад-герой», а затым – у бок спарткомплексу «Мінск-Арэна», у бок мікрараёна «Дразды», дзе размешчана рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі і побач жывуць іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі.

Каля «Мінск-Арэны» дарогу дэманстрантам перагарадзілі сілавікі са зброяй, аўтазакі і вайсковая спецтэхніка – машыны «Рубеж», вадамёты. Каля паўгадзіны ўдзельнікі маршу і кардон сілавікоў сталі твар у твар, затым калона дэманстрантаў развярнулася і рушыла назад.

У раёне станцыі метро «Пушкінская» адбыліся брутальныя затрыманні. На дэманстрантаў кідаліся адразу па некалькі сілавікоў, людзей сілай цягнулі ў мікрааўтобусы і аўтазакі.

Частцы дэманстрантаў усё ж удалося дабрацца да Драздоў. Яны падышлі да катэджа старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай і пакінулі там плакаты і сімвалічныя падарункі. Калі людзі ўжо сыходзілі, з'явіліся мікрааўтобусы з сілавікамі.

Паводле інфармацыі МУС, толькі ў Мінску ў нядзелю затрымалі больш за 400 чалавек.

Нядзельны марш прыхільнікаў перамен быў пятым па ліку пасля прэзідэнцкіх выбараў. Людзі, якія прытрымліваюцца дэмакратычных поглядаў, па ўсёй краіне патрабуюць адстаўкі Лукашэнкі і правядзення новых сумленных выбараў, вызвалення палітвязняў, а таксама адказнасці за збіцце і катаванне мірных дэманстрантаў.

«Маршы герояў» прайшлі таксама ў Брэсце, Гомелі, Гродне, Магілёве, Віцебску, Бабруйску, Лідзе і іншых гарадах Беларусі. Там таксама затрымлівалі дэманстрантаў, у тым ліку жанчын і пажылых людзей.

СОЛИДАРНОСТЬ

## Лауреаты Премии мира потребовали прекратить репрессии в Беларуси

Лауреаты Премии мира немецкой книготорговли опубликовали 11 сентября совместное заявление, в котором выразили солидарность с лауреатом Нобелевской премии по литературе и члену президиума Координационного совета белорусской оппозиции Светлане Алексиевич. Писатели призвали прекратить *«запугивание и террор»*, направленные против Алексиевич и против *«до сих пор протекавших мирно протестов белорусского народа»*.

По оценке авторов заявления, действия белорусских властей, направленные против Алексиевич и членов Координационного совета, – это попытка уничтожить мирные протесты с помощью «полицейского террора, пыток и похищений».

В 2013 году Светлана Алексиевич стала лауреатом Премии мира немецкой книготорговли. Как полагают авторы заявления, и сейчас Алексиевич делала именно то, за что ей ранее присудили эту награду: *«говорила правду и была голосом тех, кто восстает против унижения, несправедливости и пренебрежения к правам человека»*.

К призыву немецких писателей присоединилось и Биржевое объединение немецкой книготорговли. *«Ограничение свободы слова – один из самых коварных инструментов тоталитарных правителей, чтобы выстроить или укрепить автократическую систему»*, – сказал глава объединения Александр Скипис.

КУЛУАРЫ

## Александр ВОЙТОВИЧ:

# «Так у нас своя власть или оккупационная?»

*«Народная Воля» поинтересовалась закулисьем встречи на прошлой неделе А.Лукашенко с учеными.*

Как оказалось, даже далеко не все академики были на нее приглашены. Вероятно, на встрече меньше всего хотели видеть тех, кто присоединился к протестам и требовал новых выборов.

Например, не удостоился чести присутствовать на встрече с Лукашенко директор Института социологии Национальной Академии наук **Геннадий Коршунов**. По нашей информации, от института попросили делегировать одного человека, но только не директора.

Зато присутствовали на встрече генерал-полковник, директор Института государственной службы, доктор политических наук, дважды экс-министр обороны **Леонид Мальцев**, экс-глава Минобразования и экс-глава «Белой Руси» **Александр Радьков**. Судя по всему, они представляли вузовскую науку. Всего на встрече присутствовало около 400 человек.

Как рассказал «Народной Воле» заместитель директора по научной работе Института природопользования НАН Беларуси, кандидат экономических наук **Алексей Томсон**, ярких дискуссий во время встречи не было.

*«В принципе, вся информация об этом мероприятии была изложена в официальных источниках, там на самом деле ничего такого не было*, – говорит Алексей Эммануилович. – *Были ли вопросы? Да, спрашивали про перспективы экономического развития. Задавали вопросы директора институтов экономики и истории, директор Института ядерной энергетики. Громких вопросов на политическую тему не было»*.

Экс-глава Академии наук, экс-глава Совета Республики академик **Александр Войтович** не смог попасть на встречу с Лукашенко.

– Все было так организовано, что некоторые только по слухам знали, что Лукашенко приедет в Академию наук, – *рассказывает Александр Войтович*. – Многим вообще ничего не сказали. От нашего института было всего пару человек. Директорский корпус звали или кого – трудно сказать, по какому принципу строился отбор. Члены президиума вроде бы еще попали на эту встречу, а ученые такого ранга, как я, главные научные сотрудники, возрастные академики – из них почти никто не был.

Ну а зачем, с позиции руководящих функционеров, звать людей, которые могут задать неудобные вопросы, высказать альтернативное мнение?

**– Так сегодня власть как раз и должна отвечать на неудобные вопросы! Их много накопилось у всех.**

– Должна, но власть вообще не желает разговаривать с общественностью. Чиновники хотят все вопросы решать без обсуждений, так, как это им представляется. Я, например, считаю, что это преступление – выталкивать из страны граждан Беларуси, как поступили, например, с той же Марией Колесниковой. Это запрещено всеми законами и Конституцией! А ее бросают в машину и говорят: поезжай в Киев. Ну что это за разговор такой с общественностью? Сегодня власть ведет себя совершенно неадекватно. Думаю, на многие вопросы она вообще не в состоянии ответить…

**– На ваш взгляд, как будут развиваться события, чем все закончится?**

– Трудно делать прогнозы даже на ближайшее время. Но в истории уже все описано, и при характеристике этого периода Беларуси, когда-то будет использовано слово «кровавый» или «кровавая». А как уж период будет называться – не столь важно.

В конце концов, конечно, все должно прийти в норму, ситуация должна стабилизироваться. Но сколько времени на это понадобится – мне трудно сказать. Власть ведет себя таким образом, чтобы сохранить свое безграничное влияние, а это значит, что она может не остановиться и пойти на дальнейшие истязания граждан. Политика теперь ясная – давить протесты, подавлять альтернативное мнение.

Я до глубины души возмущен тем, что сейчас происходит в стране! Людей жестоко задерживают, бросают в автозаки и там избивают, привозят в тюрьму и там продолжают бить и калечить! Ни в одной стране Европы такого нет! Это с собственным народом так обращаться?!

Я уже старый человек, сейчас часто вспоминаю оккупацию. Я помню не все, конечно, но какие-то очень эмоциональные эпизоды в моей памяти остались очень ярким. Так это почти один к одному, что происходит сейчас! Помню, приходят полицаи в нашу хату, мама быстро меня одевает, прячет в сенях (там у нас была отгороженная часть) и говорит: не выходи, тут оставайся! А в хату заходят полицаи и избивают отца до полусмерти. И я вижу, что отец лежит без сознания в луже крови… Или смотрю в окно – там полицаи ведут мужчину и женщину, наших, деревенских. А потом в деревне говорят, что их убили. Вывели и расстреляли без суда. И у нас сегодня что-то похожее творится. И теперешние дети тоже будут помнить, что отец пришел с митинга весь покалеченный. Или вообще не пришел, потому что в тюрьму забрали. Или как дверь ломают в дом. Все будут помнить. На всю жизнь это останется в памяти.

Так у нас своя власть или оккупационная?!

То, что сейчас происходит, не забудется. Потому что слишком много жестокости, насилия. Через край.

**– Лукашенко российским журналистам сказал, что, мол, министр внутренних дел дважды извинился, и предложил перевернуть эту страницу…**

– В истории все страницы остаются заполненными. Это Лукашенко хочется, чтобы убийства, насилие, пытки люди забыли. Не забудут! Он для себя, может, эту страницу и перевернул уже. А народ не забудет никогда.

**Марина КОКТЫШ.**





…И после этого вы считаете себя цветом нации?

Народная Воля http://www.nv-online.info
15 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ГРЫМАСЫ ФЕМІДЫ!

# Хто завязаў вочы і заткнуў вушы суддзю Петрашу?

На мінулым тыдні каля ізалятара часовага ўтрымання ў 1-м завулку Акрэсціна можна было пабачыць пажылую жанчыну з засмучаным тварам. Разам з дзясяткамі тых, чые блізкія таксама апынуліся за высокай агароджай з калючым дротам, яна чакала хоць якой весткі пра сына. Жанчына – маці Пятра Траццякова, які ў ліку васьмі супрацоўнікаў выратавальнай станцыі “Камсамольскае возера” 6 верасня быў затрыманы сілавікамі.

За што? За тое, што выконваў свае службовыя абавязкі – ратаваў людзей, якія падчас чарговага хапуна на беразе возера ад безвыходнасці скочылі ў ваду. Яе тэмпература ў той дзень (прайшоў халодны дождж) складала ўсяго 15 градусаў. Людзі за лічаныя хвіліны маглі загінуць ад пераахаладжвання. І ратавальнікі **Пётр Траццякоў, Сяргей Арцюшэўскі, Павел Лялевіч, Іван Юрскі** і **Мікалай Купрыенка** кінуліся ім на дапамогу. Выцягнулі з вады, захуталі ў цёплыя пледы і на катары перавезлі на другі бераг.



У гэтых іх дзеяннях (толькі ў гэтых!), паводле слоў прэс-сакратаркі ГУУС Мінгарвыканкама Наталлі Ганусевіч, прысутнічалі прыкметы злачынства. Спадарыня, гэта што за кодэкс Хамурапі пачаў дзейнічаць у Беларусі, што выратаванне людзей ад немінучай смерці стала кваліфікавацца як злачынства? Вы хоць думайце, калі гаворыце!

Каб не стаць “злачынцамі”, выратавальнікі, па-вашаму, павінны былі што рабіць? Безуважна назіраць, як людзі ідуць на дно? Правесці апытанне, хто з іх любіць дзейную ўладу, а хто яе на дух не пераносіць? А можа, самім скокнуўшы ў ваду, стаць, сагнуўшы спіны, каб істоты ў чорных масках змаглі па іх дабегчы да сваіх ахвяр?

На думку тае ж Ганусевіч, выратавальнікі былі абавязаны, вылавіўшы ў возеры пратэстоўцаў, неадкладна перадаць іх у рукі афіцыйных прадстаўнікоў МУС.

Але тут узнікаюць пытанні. Па-першае, як выратавальнікі маглі даведацца, хто ў той сітуацыі законны прадстаўнік, а хто незаконны? Сілавікі апошнім часам не прадстаўляюцца і не прад’яўляюць службовых пасведчанняў (хоць рабіць гэта абавязаны, што называецца, пры любым надвор’і). Да таго ж у той дзень яны масава працавалі на вуліцах у цывільным адзенні. Балаклавы на тварах і дубінкі ў руках – па *гэтых* прыкметах выратавальнікі павінны былі вызначаць праваахоўнікаў?

Па-другое, вылаўленым у Камсамольскім возеры і пасінелым ад холаду людзям (у іх на лбе не было напісана, што яны менавіта пратэстоўцы) патрабавалася неадкладная дапамога, якую кваліфікавана маглі аказаць толькі выратавальнікі на сваім спецыялізаваным катары, а ніякім чынам не амапаўцы ў аўтазаках.

І па-трэцяе, ні ў якіх адміністрацыйных кодэксах не прапісана, на які бераг, правы ці левы, выратавальнік павінен везці чалавека. Ён павінен яго ратаваць!




Матарыст-рулявы выратавальнага катара Мікалай Купрыенка так і патлумачыў свае паводзіны на судзе: “Я ўбачыў, як тонуць людзі, у аднаго былі сінія вусны. Я глядзеў толькі на ваду і чуў толькі, як людзі крычалі: “Дапамажыце! Ратуйце!” Я выконваў свае службовыя абавязкі, я ратаваў людзей”.

Тое ж самае на судовым пасяджэнні заявіў і Сяргей Арцюшэўскі. У вадзе апынулася каля 30 чалавек, і ім усім пагражала смяротная небяспека. Па словах Сяргея, “*двое цяжка дыхалі, у аднаго быў сутаргавы сіндром, ён захлынаўся, у яго былі пасінелыя вусны, збітае дыханне. Мы давезлі іх да выратавальнай станцыі, што на вуліцы Прагрэсіўнай, 29. З выратаваных толькі двое выйшлі самастойна, астатнім была патрэбна дапамога...*”.

Суддзя Аляксандр Петраш задаў дзіўнаватае пытанне: “Што было бліжэй – бераг, адкуль людзі скакалі ў ваду, ці станцыя?”

Падсудны спакойна патлумачыў, што пры беразе “няма тэхнічнага пірса, людзі былі ў вадзе, іх маглі пакалечыць. Да таго ж на катары ніхто не мог чуць ніякіх указанняў праваахоўнікаў з берага, бо працаваў матор”.

Годна трымаўся і начальнік “Камсамольскага возера” Дзяніс Чашун, які ў той дзень не пакідаў станцыі. Выратавальнай службе ён аддаў дзесяць гадоў (з 29-ці пражытых) і на судзе быў гатовы да любога развіцця падзей: “*Мы ўчора з хлопцамі былі настроены, што нас не выпусцяць, што адсядзім па 15 сутак – за справядлівасць! Бо мы ні ў чым не вінаваты! Мы да апошняга будзем змагацца за кожнага нашага супрацоўніка. Будзем усе судовыя рашэнні аспрэчваць, таму што гэта несправядліва*”.

Начальнік станцыі прызнаўся, што за ўсе дзесяць гадоў яго працы выратавальнікам падобнае судзілішча ён назіраў упершыню. А найбольш ён пераживае, што васьмёра затрыманых для станцыі – гэта больш за 80% усіх супрацоўнікаў: “*А купальны сезон для некаторых працягваецца, “маржы” лезуць у ваду, здараюцца суіцыды, усё што заўгодна можа адбыцца. Раптам спатрэбіцца наша дапамога – а мы на Акрэсціна, а нас па судах цягаюць*”.

Супраць выратавальнікаў на судзе сведчыў (па скайпе) супрацоўнік Цэнтральнага РУУС Мінска Аляксандр Аляксандравіч Александровіч, які адмовіўся зняць маску і паказаць пасведчанне. Як аказалася, маскіраваўся ён нездарма – ніякага А.А.Александровіча ў штаце Цэнтральнага РУУС няма. Такім чынам проста ў судовай зале было ўстаноўлена, што мае месца ілжэсведчанне!

Аднак гэта не перашкодзіла суддзі Аляксандру Петрашу ўляпіць Мікалаю Купрыенку і Сяргею Арцюшэўскаму вялікія штрафы – 810 рублёў, а Паўлу Лялевічу – яшчэ больш: 945 рублёў (за “непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы”). Справы астатніх былі вернуты на дапрацоўку. Можна не сумнявацца, “сведка” А.А.Александровіч яшчэ нештачка “ўспомніць”...

Што ў Беларусі ў багіні правасуддзя Феміды вочы завязаны – гэта агульнавядома. Але хто завязаў вочы і заткнуў вушы суддзі Петрашу? Дарэчы, ён правёў ужо з дзясятак палітычных працэсаў і, кажуць, ні разу не апраўдаў падсуднага.

Восем выратавальнікаў (нават тыя, што не былі на катары) з Камсамольскага возера трапілі на Акрэсціна і правялі там трое сутак. Замест заслужаных медалёў “За выратаванне на вадзе” ўлада “ўзнагародзіла” іх камерай у ІЧУ і штрафамі. Дарэчы, ніхто з асуджаных віны не прызнаў. Верагодна, гэтымі днямі па гэтай справе адбудуцца новыя суды, будуць прысуджаны новыя штрафы. Магчыма, кагосьці з выратавальнікаў чакаюць звальненні.

Затое яны з годнасцю змогуць глядзець у вочы сваім дзецям і ўнукам. А ўдзячныя суайчынніцы ўжо зладзілі акцыю салідарнасці, прыйшоўшы на станцыю выратавання з кветкамі і плакатам “Дзякуй вам, мужчыны з сумленнем!”.

Засмучаная маці выратавальніка Траццякова дачакалася вызвалення сына. Можна толькі ўявіць, як балела яе матчына сэрца пасля зняволення Пятра, пасля таго, што расказалі вызваленыя з таго “акрэсцінскага канцлагера”.

У маіх вушах працягваюць гучаць яе простыя і мудрыя словы: “*Калі ратуюць, то глядзяць, каб чалавеку было цёпла і каб яму горш не стала. Мой сын апынуўся за кратамі, выратаваўшы людзей*”.

Ведаеце, гэта ўжо нават не імітацыя правасуддзя. Гэта супрацьстаянне дабра і зла. І як важна для кожнага беларуса сёння не слугаваць злу, а стаць на бок дабра. Як гэта 6 верасня зрабілі выратавальнікі са станцый “Камсамольскае возера”.

**Міхась СКОБЛА.**

**На фота: выратавальнік Пётр Траццякоў.**

**Такія плакаты з’явіліся на Камсамольскім возеры 7 верасня.**

ПОЛЕТИМ!

## Беларусь готова возобновить авиасообщение с Россией в ближайшее время

Департамент по авиации Минтранса Беларуси направил российской стороне предложения по восстановлению авиасообщения. В Минске готовы к его возобновлению в самое ближайшее время.

– Вопрос о возобновлении авиасообщения между двумя странами находится на российской стороне, – добавили в пресс-службе ведомства.

В Минтрансе также напомнили, что ранее авиакомпания «Белавиа» продлила срок приостановки рейсов в РФ до 30 сентября.

– В принципе, можно ориентироваться на эту дату, – сказал представитель пресс-службы. Но если с российской стороны ситуация поменяется, то белорусская сторона готова возобновить авиасообщение и раньше.

ВНИМАНИЕ!

## Магнитная буря ожидается в конце сентября

*О магнитной буре, которая пройдет в конце сентября, предупреждает Лаборатория рентгеновской астрономии Солнца ФИАН.*

Возмущения магнитного поля Земли начнутся 25 числа и завершатся 28-го, пик придется на 27 сентября, прогнозируют исследователи.

Специалисты рекомендуют в дни магнитной активности чутко прислушиваться к организму и не работать на износ. Желательно в такие дни отказаться от физических нагрузок и следить за питанием: жирная и слишком соленая пища не пойдет на пользу. Не переедайте, чтобы не увеличить нагрузку на сердечно-сосудистую систему.

Магнитные бури часто провоцируют сонливость или бессонницу, внезапное ухудшение самочувствия, раздражительность, невнимательность.

НЕДЭМАКРАТЫЧНА!

# На дыялог духу не хапіла

Калі нехта думае, што гомельскія пратэстоўцы толькі і ўмеюць хадзіць па вуліцах ды хорам паўтараць «Саша, зыходзь!», то ён глыбока памыляецца. Яшчэ 17 жніўня, на трэці дзень пасля агучвання афіцыйных вынікаў выбараў, мясцовыя жанчыны праз збор подпісаў запрасілі кіраўнікоў горада і вобласці на мітынг, які праходзіў літаральна пад вокнамі аблвыканкама, каб дамовіцца наконт «круглага стала» з мэтай абмеркавання шляхоў выйсця з грамадска-палітычнага крызісу. Аднак ні старшыня аблвыканкама **Генадзь Салавей**, ні старшыня гарвыканкама **Пётр Кірычэнка**, ні іхнія намеснікі нават вачэй не паказалі. Галасы выбаршчыкаў з падкантрольнымі камісіямі перакруціць здолелі, а на дыялог, бачыце, духу не хапіла. Ні з грамадой, ні з вылучанымі ёю членамі мясцовай Каардынацыйнай рады. Было б у краіне сапраўднае мясцовае кіраванне, мы ўжо назаўтра пабачылі, дзе апынуліся б такія чыноўнікі, што праігнаравалі сустрэчу з сотнямі гараджанаў.

Няма таксама ўпэўненасці, што тыя ж Салавей і Кірычэнка перадалі «наверх» інфармацыю аб прынятых на згаданым жнівеньскім мітынгу патрабаваннях. Найперш – прызнанне несапраўднымі агучаных 14 жніўня вынікаў галасавання на выбарах прэзідэнта, прыцягненне да адказвасці ўдзельнікаў фальсіфікацый і неадкладнай адстаўкі Аляксандра Лукашэнкі з прычыны страты даверу.

На плошчы правялі нават своеасаблівую верыфікацыя нядаўняга галасавання. У грамады запыталіся: хто галасаваў за Аляксандра Лукашэнку? Прысутнічала на плошчы каля тысячы гамяльчан, але ніхто не падняў руку. За Святлану Ціханоўскую і другіх альтэрнатыўных кандыдатаў паўстаў лес рук.

Два другія пункты патрабаванняў, прынятых на жнівеньскім мітынгу, тычыліся спынення ўсіх палітычна матываваных адміністрацыйных і крымінальных спраў за выяўленне сваёй грамадзянскай пазіцыі, а таксама паўнавартаснага і празрыстага расследавання ўсіх выпадкаў гвалту і катаванняў з боку сілавікоў.

### З кім жанчыны адмаўляюцца жыць?

Асобны ліст гомельскія жанчыны прадрыхтавалі асабіста Генадзю Салаўю, Пятру Кірычэнку і абласному пракурору Віктару Марозаву. Яго зачытала Святлана Кароль. Жанчыны перакананы: кожны са згаданых чыноўнікаў «*на сваім месцы можа спыніць хвалю беззаконня, палітычных рэпрэсій, гвалту*».

Жанчыны адкрыта заяўлялі, што не жадаюць «*жыць з уладаю, якая падманвае і здраджвае свайму народу*», яны не хочуць «гаротнага лёсу для сваіх дзяцей», не могуць «*губляць сваіх мужчын, якіх і без таго надзвычай мала*».

Нежаданне чуць і бачыць тое, што адбываецца пад вокнамі, трэба думаць, тлумачыцца адным: чыноўнікам не было каманды слухаць сваіх грамадзян. Ну як жа іх слухаць: гэта ж «абкураныя», «майданутыя», «пацукі», «авечкі» выйшлі на вуліцы. Раней выходзілі «свядомыя», зараз – «майданутыя».

Што тых «абкурана-майданутых» у гарадах ужо многія тысячы, а ў сталіцы – сотні тысяч, заўважылі дзён праз дзесяць. Яны не правакатары, не б’юць жалеззем па шклу, як міліцэйскі начальнік Карпенкоў, а трымаюць у руках свой гістарычны сцяг, пад якім Аляксандр Лукашэнка ў 1994 годзе даваў прысягу на вернасць беларускаму народу, нясуць кветкі, надзіманыя балонікі, надзённыя плакаты.

### Сельгастэхніка і кірмашы супраць пратэстоўцаў

Тысячы людзей на вуліцах у Гомелі чыноўнікі заўважылі, бадай, 21 жніўня, калі на плошчу Леніна, каб яна не дасталася пратэстоўцам, прыгналі як на дзіва камбайны, трактары, аўтобусы, пажарныя аўтамашыны і чамусьці нават асфальтаўкладчык Volvo, а меншыя пляцоўкі – заставілі трыногамі з дзіцячымі малюнкамі.

Пасля двух выхадных тэхніку з цэнтральнай плошчы прыбралі, а замест яе абавязалі аграпрадпрыемствы ўдзельнічаць у недарэчных для канца жніўня і пачатку верасня кірмашах сельгаспрадукцыі, ад правядзення якіх на плошчы Леніна ў апошнія гады наогул адмаўляўся. Цяпер жа гомельскія ўлады дзейнічаюць па прынцыпе: усё, што хочаце, абы толькі не дыялог.

Відавочна, што алгарытм такіх паводзін падтрымліваецца зверху, які ўрэшце рэшт агучыў нядаўна Аляксандр Лукашэнка: «*Я не буду размаўляць з Каардынацыйнай радай апазіцыі, таму што я не ведаю хто гэтыя людзі*». З аўтаматам да іх можна, з АМОНам, бронетэхнікай, са словам – ну ніяк нельга. Бо яны ж не стаяць навыцяжку моўчкі, нібы вады ў рот набраўшы, падобна прызначаным чыноўнікам.

Патрабавалі 430 гамяльчан атрымаць асабіста ад Генадзя Салаўя адказы на пытанні пра «*ўзброеныя атрады невядомых асобаў у масках*», якія арудавалі на вуліцах абласнога цэнтра цягам некалькіх дзён пасля выбараў. Хто загадваў ім весці сябе па-бандыцкі агрэсіўна? У выніку пацярпелі дзесяткі, калі не сотні мірных грамадзян, што выйшлі пратэставаць супраць непразрыстага і несумленнага падліку галасоў.

Вядома, што ў першыя тры дні пасля выбараў у цэнтры Гомеля схоплены былі звыш паўтысячы гараджан. Да многіх з іх прымяняліся катаванні, людзі атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. Загінуў пасля затрымання пры нявысветленых абставінах 25-гадовы жыхар горада Аляксандр Віхор.




### «Глухая абарона» паразуменню не спрыяе

Адказ старшыні аблвыканкама на зварот мясцовых жыхароў пераслала «Народнай Волі» гамяльчанка Наталля Юшкіна.

«*З грамадзянамі, змешчанымі ў ІЧУ ў перыяд з 9 па 13 жніўня за парушэнне артыкула 23.34 КаАП, праведзена прафілактычная работа. Па стану на 17 жніўня 2020 года згаданыя асобы былі вызваленыя*», – паведамляў Салавей.

Хто загадваў і арудаваў групамі пад маскамі, збіваючы людзей, галоўны ў вобласці начальнік па прозвішчы Салавей не ўказаў. Як слушна заўважыў гомельскі палітык і каардынатар незалежнага назірання за галасаваннем Васіль Палякоў, які з моманту выбараў ужо двойчы пабываў за кратамі па прыхамаці служкаў рэжыму, адказныя чыноўнікікі ў рэгіёне сядзяць у «глухой абароне», хоць даўно трэба было пачынаць кантактаваць з грамадзянамі.

Дык ці варта здзіўляцца пратэстным маршам на вуліцах гарадоў, і Гомеля, у прыватнасці?

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

**На здымку: пратэстны марш у Гомелі. Фота аўтара.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
15 ВЕРАСНЯ 2020 г.

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

Анатоль БУТЭВІЧ

# ВЯЛІКАЛІТОЎСКАЯ МАЦІ ІВАНА ГРОЗНАГА

*(Працяг. Пачатак у №№ 63-71.)*

Вестка аб маючай быць жаніцьбе сына вялікага князя маскоўскага Івана Вялікага ледзь не ўзняла на дыбы ўсю маладую Русь. Чаму? Бо быць у ліку прэтэндэнтак і высокапасадных жыхарак Масквы пажадалі сотні расійскіх дзяўчат. Бацькі гэтых мройных ахвотніц увайсці ў вялікакняскі палац таксама загарэліся жаданнем наблізіцца да галоўнага дзяржаўнага дома. Ці мо найперш бацькі, а не іхнія далёкія ад палітыкі дочкі? Уяўляеце, што тут пачалося?

Заварыла ж усю гэтую кашу жаданне вялікакняскай маскоўскай сям’і выбраць сыну нявесту. Ды не цішком, а публічна, прынародна. І абавязкова – з вялікай колькасці найлепшых дзяўчат. Спачатку наважваліся сабраць у Маскве не толькі расійскіх, а і еўрапейскіх прыгажунь. Але ўрэшце перадумалі: абыдземся сваімі. А каб выбар быў справядлівы і дастойны, запрасілі ў княжы двор ажно… 1500 дзяўчат. Іншыя, праўда, называюць лічбу 500. Чым не звыклы сёння конкурс прыгажосці? І калі? Ажно ў 1505 годзе. Ахвотніц на перамогу было шмат. Ды і змагацца было за што. Аднак толькі 10 лепшых выйшлі ў фінал. Праўда, гэтая прыдумка – не расійская звычка. Падобная практыка існавала ў Візантыі ажно з VIII стагоддзя. На Русь гэты звычай прыйшоў у XVI стагоддзі разам з жонкай Івана Вялікага – прадстаўніцай знакамітай імператарскай візантыйскай дынастыі Соф’яй Палеалог.

У Маскву прыехалі сотні дзяўчат самых розных саслоўяў. Тут у любога вочы разбягуцца, галава закруціцца, пачуцці зашкальваць пачнуць. І як у такім стане зрабіць правільны выбар? Песімісты не памыліліся. Так яно ўрэшце і атрымалася: з вялікай хмары аказаўся малы дождж. Не пашэнціла Васілю з прыгажуняй…

А пакуль што цешыўся бацька княжыча – вялікі князь маскоўскі Іван III Васільевіч, альбо, як яшчэ яго называлі, Іван Вялікі. Ва ўсіх справах прывык ён дзейнічаць няспешна, разважна, але надзейна. Так, думаў, будзе і з жонкай для сына. Ёсць з каго выбіраць. Выбралі. Спадарожніцай 26-гадовага Васіля стала прадстаўніца маскоўскага баярскага роду Сабуравых. 15-гадовая Саламонія Юр’еўна 4 верасня 1505 года павянчалася з Васілём. Народ з хітрынкай назіраў, што дасць маладым гэткі публічны выбар. А тыя ажно 20 гадоў чакалі свайго паўнавартаснага сямейнага шчасця – нараджэння моцна жаданых для Васіля дзяцей, лепей за ўсё сына. Спадзяванні мужа аказаліся марнымі, не магла нарадзіць Саламонія. Пераадолеўшы ўсе рагаціны і перашкоды, бо нават царква забараняла падобныя дзеянні, вялікі князь маскоўскі і ўладзімірскі, Усяе Русі самадзержац Васіль III дабіўся разводу. Саламонія стала першай вялікакняскай жонкай, якую 29 лістапада 1525 года прымусова саслалі ў манастыр, назваўшы Соф’яй. У Суздальскім Пакроўскім манастыры яна і памерла ў 1542 годзе.

Развод патрабаваўся вялікаму князю Васілю Іванавічу, каб “вынікова” ажаніцца зноў, бо ўсё больш мацнела неабходнасць мець сына, якому можна будзе перадаць уладны пасад. На гэты раз парада-конкурсу нявест не праводзілі. Мо таму, што не было ўжо на гэтым свеце ні Васілёвага бацькі, ні маці. Выбіраў сам Васіль. 21 студзеня 1526 года 47-гадовы вялікі князь маскоўскі ва Успенскім саборы Крамля абвянчаўся з 18-гадовай Аленай Глінскай. Іншаземкай, бо з зямлі вялікалітоўскай. Праўда, прыгожая, вельмі прыгожая, маладая, высокая ростам, мае еўрапейскія звычкі. Ведае не адну замежную мову. Валодае пачуццём гумару. Зайздросная нявеста.

Ці не з таго часу ў рускія казкі трывала ўвайшоў выраз “Елена Прекрасная”? Мо ад Глінскай пайшоў? Не толькі імя супадае – Алена, але і сама жаночая прыгажосць з’яўляецца вызначальнай. Усё гэта выгадна вылучала яе, чужаземку, з грона рускіх ахвотніц на высокі пасад. Сведчаць, што жонка станоўча ўплывала на мужа, які ахвотна далучаў да еўрапейскіх традыцый свой двор. Больш як за паўтара стагоддзя да таго, як расійскі самадзержац Пётр I пачаў барацьбу з баярскімі барodamі, Алена прапанавала мужу збрыць бараду, што на той час было вельмі смелым крокам. Як засведчылі сучаснікі, жаданне спадабацца жонцы было такое вялікае, што згадзіўся, не запярэчыў Васіль, хоць і характар яго, згодна з перакладам з грэцкай мовы, азначаў “уладар”, “кароль”, “той, хто на царстве”. Ды зразумела Алена, што акрамя гэтых адзнак імя Васіль яшчэ і радаснае, вясёлае, гучнае, імя, якое прыносіць удачу.

Аднак не ўсе з акружэння вялікага князя прынялі ягоны выбар на карысць Алены. Некаторыя нават абвінавачвалі ў здзеку з Саламоніі Сабуравай, бо пайшла чутка, што тая ў манастыры нарадзіла сына. А каб адпомсціць сваім крыўдзіцелям, яна, кажуць, прakляла не толькі Васіля з Аленаю, але і ўвесь род Глінскіх. Ці праўда гэта, то загадка аказалася неразгаданай, але ж лёс Алены сапраўды не быў бясхмарны. Неўзабаве і над маладой Васілёвай жонкай навісла тая ж небяспека – апынуцца ў манастыры. Бо чатыры гады аднасямейнікі жылі бяздзетнымі. Жаданне мець спадчынніка было такім моцным, што абое горача маліліся, прасілі Божага спрыяння. З гэтай нагоды нават манастыры наведвалі. У 1528 годзе Васіль і Алена пабывалі не толькі ў бліжэйшых да Масквы манастырах, а нават у далёкіх Спаса-Прылуцкім і Кірыла-Белаазёрскім. А ва ўсіх цэрквах дзяржавы маліліся за нараджэнне ў вялікага князя Васіля спадчынніка. На вышынях пачулі іхнюю малітву.

Дзень 25 жніўня 1530 года стаў сапраўды вялікім. Найперш для сям’і. Аказалася, не толькі. Вызначальным для Масквы, важным для ўсёй Русі. У высокапасадных бацькоў у іхнім сяле Каломенскае нарадзіўся першынец – будучы першы расійскі цар Іван, той самы, якога народ і палітыкі назавуць пазней Грозным. У Рурыкавіча Васіля III Іванавіча, якому на той час было больш за 50 гадоў, і 22-гадовай вялікалітоўскай Алены з роду князёў Глінскіх, якія меў татарскія карані і, кажуць, вёў сваё паходжанне ажно ад Мамая.

Летапісцы засведчылі, што сама прырода вельмі ж гучна адрэагавала на гэтую падзею – у дзень нараджэння Івана па ўсёй Русі грукатаў незвычайна моцны гром, безупынку рвалі неба магутныя маланкі. Ці не было гэта своеасаблівым папярэджаннем людзям аб характары будучага самадзержца расійскага? Ды і само імя Іван мела сімвалічнае значэнне. Асабліва ў гэтым выпадку. Лічылася, што старажытнаяўрэйскае імя Іван азначае “Бог злітаваўся”, “Бог памілаваў”, “дар Божы”.

А ў 1532 годзе ў сям’і Васіля і Алены нарадзіўся другі сын, якога назвалі Юрыем. Ды не лёсіла яму. Як лічаць гісторыкі, быў ён малога розуму, меў слабое здароўе, праз тое і стаў толькі князем угліцкім. Зноў жа – ці не выбар лёсу на карысць адзінаўладнага ўзвышэння сына-першынца Івана, каб другі не ствараў яму ўладнай канкурэнцыі?

А як жа вялікалітоўская княжна апынулася ў Маскве, бо не на яе родных землях выбіраў вялікі князь маскоўскі сабе жонку? Алена – дачка старасты берасцейскага, падстолія ВКЛ князя Васіля Львовіча Глінскага і Ганны, народжанай у Сербіі. Дзядзька Алены – вядомы за межамі Княства пераможца над татарамі ў бітве пад Клецкам у 1506 годзе маршалак дворны літоўскі Міхаіл Глінскі. У 1508 годзе ён не паладзіў з каралём польскім Жыгімонтам, падняў супраць яго мяцеж, а пасля ўцёк з ВКЛ у Маскву. Разам з ім пайшлі і многія родзічы, якія падтрымалі мяцеж, у тым ліку бацька Алены. Вось бачыце, якія кульбіты бываюць у гісторыі: Глінскія ўцякалі ў Маскву, а крыху пазней князь Курбскі, які служыў у Івана Грознага і быў асабліва набліжаны да яго, уцёк ад сына Васіля і Алены ў Вялікае Княства Літоўскае.

Амбітны і неўтаймоўны Міхаіл Глінскі не знайшоў паразумення і з маскоўскім князем Васілём III, а за гэта вядома што бывае. І апынуўся Міхаіл у турме. Праз год пасля шлюбу з Васілём Алена дабілася вызвалення дзядзькі. Ды не ладзіліся ў яго справы. Цяпер ужо з Аленай – сутыкнуліся два моцныя характары. Перамог жаночы. Міхаіл зноў трапіў у турму. І гэта нягледзячы на тое, што яго ў ліку іншых Васіль назваў апекуном свайго малалетняга сына Івана, будучага цара. На гэты раз Міхаіл быў зняволены па загадзе роднай пляменніцы. Мо каб не ўплываў на малалетняга Івана сваім характарам і паводзінамі? А гэта аказалася горай за вялікакняскую вязніцу. Ніякія спробы вызваліцца не мелі поспеху. Расчуліць альбо ўгаварыць Алену не ўдавалася. Прасядзеўшы ў турме 13 гадоў, у 1534 годзе Міхаіл Глінскі ў турме ж і памёр.

Алена Глінская была першай з ліку замежных жанчын (хіба што пасля вялікай княгіні Вольгі і Соф’і Вітаўтаўны), якая стала на чале Вялікага княства Маскоўскага. Адбылося гэта пасля смерці 3 снежня 1533 года яе мужа вялікага князя маскоўскага Васіля III, якога згодна са звычаем аб’явілі манахам Варламам і пахавалі ў Архангельскім саборы Крамля.

Відаць, паміж мужам і жонкай акрамя дзяржаўных інтарэсаў і праўда было шчырае каханне. Гісторыкі засведчылі цікавыя назіранні іхніх узаемаадносін падчас нечаканай хваробы Васіля і хуткага ягонага сыходу ў іншы свет. У “Аповесці пра хваробу і смерць Васіля III” сказана: *“Тогда князь великий послал за великой княгиней… Великая княгиня билась и горько плакала, а слезы так и текли из ее глаз непрестанно, как из многоводного источника. Много тогда было слез, все люди плакали и рыдали. Князь же великий утешал ее, говоря ей: “Жена, перестань, не плачь! Мне легче стало, не болит у меня ничего, благодарю Бога”, ведь князь великий уже не чувствовал себя. И на короткое время успокоил ее князь великий, и перестала плакать великая княгиня. И стала говорить великая княгиня: “Государь князь великий! На кого меня оставляешь и кому, государь, детей поручаешь?” Князь же великий, отвечая, сказал: “Я благословил сына своего Ивана государством – великим княжением, и тебе написал в своей духовной грамоте так, как писалось в прежних духовных грамотах отцов наших и прародителей, по обычаю, как и прежним великим княгиням…” Преставился князь великий Василий Иванович всея Руси, нареченный в монашестве Варлаамом, в год 7072 (1533) месяца декабря в третий день, со среды на четверг, в двенадцать часов ночи, накануне Варвариного дня… И когда вынесли его на площадь, как будто земля застонала: от слез и рыданий народа не было слышно звону колокольного. Великую же княгиню Елену несли из ее покоев…”*

Са згоды Васіля апекунамі малалетняга Івана прызначылі Міхаіла Глінскага, Міхаіла Тучкова, Івана Шуйскага і іншых – усяго сямёра высокапасаднікаў. Ды не вытрымала гэтага Алена, не ў яе звычках падпарадкоўвацца ніжэйшым за сябе. Неўзабаве яна рашуча адхіліла ад апякунскіх абавязкаў усіх. Гэты крок сучаснікі Алены, якая стала адзінай рэгентшай, назвалі ледзь не дзяржаўным пераваротам, бо ў Маскве падобнай традыцыі не існавала. Такі выпад палічылі праявай “літоўскага” характару княгіні. На яе плечы лёг увесь цяжар кіраўніцтва рускай дзяржавай. Адной, самастойна. І яна з гэтым спраўлялася. Паступова далучала да сваіх высокапасадных спраў сына – хай прывыкае Іван, хай вучыцца кіраваць.

З часам, з набыццём вопыту, у выніку разумнага вырашэння многіх складаных спраў лідарская роля Алены толькі ўзрастала. Без вагання моцнай рукой яна распраўлялася з баярскімі змовамі. Вялікай заслугай было правядзенне грашовай рэформы, што станоўча паўплывала на развіццё эканомікі. Пры ёй пачаў працаваць першы на Русі казённы Манетны двор, з’явілася капейка – назва паходзіла ад выявы на манеце кап’яносца ў вобразе вялікага князя. Шмат зрабіла Алена для ўмацавання абараназдольнасці рускай зямлі – абнаўляла і ўзводзіла новыя крэпасці, мадэрнізавала армію, адбудоўвала пасля пажараў многія гарады. Новая Кітайгародская крапасная сцяна ў Маскве супраць набегаў крымскіх татар таксама паўстала пры ёй – пачатак будаўніцтва адносіцца да 1534 года.

Вялікая княгіня маскоўская паказала сябе здольным арганізатарам і бескампрамісным чалавекам, часам нават залішне жорсткім. Ці не адсюль вытокі характару будучага расійскага самадзержца Івана Грознага? Дарэчы, і бацька ягоны вялікі князь маскоўскі Васіль, улада якога практычна была бязмежнай, таксама меў характар не залаты, не цярпеў пярэчанняў, рашуча караў нязгоднікаў. Акрамя таго, дзіцячыя і юнацкія вочы Івана бачылі пастаянную барацьбу і непатрэбную валтузню вакол трона. Змовы, забойствы, нагаворы, падазрэнні, інтрыгі – усё гэта не радавала Івана, не спрыяла яму набірацца спагадлівасці і памяркоўнасці. Хутчэй наадварот. А калі малалетнім застаўся зусім без бацькоў, спазнаў не толькі сум, а і натуральныя здзекі, за што пазней вінаватым і бязвінным адпомсціў з каптуром. Пра ягоныя паводзіны дагэтуль спрачаюцца гісторыкі. Адны ўзвялічваюць Грознага за карысныя справы для рускай зямлі, іншыя безапеляцыйна называюць дэспатам і тыранам. Так, Іван Грозны за час свайго царавання натварыў такога і столькі, што нават самыя ўедлівыя даследчыкі дагэтуль не могуць прыйсці да згоды, якой мерай усё гэта мераць, якімі ацэнкамі цаніць…

Ягоная маці мусіла пэўным чынам рэагаваць на падзеі вакол трона, выносіць свае рашэнні і прысуды, мець цвёрдую руку, каб не аслабела дзяржава руская. Алена рашуча ўмешвалася і ў міжнародныя справы, умела адстойвала свае інтарэсы, праяўляла наступальнасць у складаных сітуацыях. І да яе прыходзіў поспех. Яна навучылася дабівацца свайго. Напрыклад, змусіла караля польскага Жыгімонта I Старога заключыць выгадны для рускай дзяржавы мір. Здолела разабрацца з Лівоніяй і Малдовай на рускую карысць.

Аднак, паколькі характар у яе быў не залаты, а нораў мела надта круты, дзяржаўнае жыццё ўдовай княгіні не было бясхмарным. Мо каб кампенсаваць складанасці і непамыснасці, Алена займела свайго фаварыта. Ім стаў Іван Фёдаравіч Аўчына-Целяпнёў-Абаленскі, які яшчэ пры Васілі III атрымаў ад яго чын старэйшага баярына Думы. Упартым аказаўся Абаленскі – часта навязваў княгіні сваю волю. І не толькі ў сямейных справах, а і ў дзяржаўных. Гэта вельмі не падабалася дзядзьку Алены Міхаілу Глінскаму. Дарэчы, ён быў жанаты з Аленай Іванаўнай Целяпнёвай-Абаленскай, стрыечнай пляменніцай Івана Фёдаравіча Аўчыны-Целяпнёва-Абаленскага. Ды не звяртала Алена Васільеўна Глінская ніякай увагі на дзядзькавы амбіцыі, не прывыкла падпарадкоўвацца камусьці. А ён не жадаў прыслухоўвацца да рэальнай расійскай кіраўніцы, таму і сустрэў свой апошні дзень за кратамі вязніцы. За кратамі апынуліся і іншыя прызначаныя Васілём III апекуны Івана, якія ігнаравалі думку Алены. Сваю жорсткасць у адносінах да многіх асоб з колішняга атачэння вялікага князя Алена тлумачыла клопатам аб абароне права сына на высокі пасад.



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што ў выніку гэтага Алена не карысталася надзейнай падтрымкай баяр – яны лічылі яе бязроднай. А вось у народзе, сведчаць адны, яе шанавалі. Праўда, іншыя гэтак жа настойліва імкнуцца даказаць адваротнае. Вялікі расійскі вучоны Міхаіл Ламаносаў выказваўся наконт Алены вельмі станоўча. Ды праўда і тое, што Алена, выхаваная ў больш дэмакратычных вялікалітоўскіх традыцыях, не была такой пакорлівай і паслухмянай, як звыкла праяўлялі сябе рускія жанчыны.

Памерла вялікая княгіня маскоўская Алена Глінская нечакана – 4 красавіка 1538 года (згадаем праклёнцце Сабуравай). Было ёй усяго 30 гадоў. І, як мяркуюць найбольш дасведчаныя, адышла не сваёй смерцю – дапамаглі атрутай пакрыўджаныя на яе баяры. Бо хварэць Алена пачала яшчэ ў 1537 годзе, хоць ніводзін доктар не знаходзіў падстаў для бяды. Пайшла пагалоска, што Алену Васільеўну атруцілі Шуйскія. Падставы для такой высновы меліся важкія – пасля смерці Алены ўлада апынулася ў руках групы баяр на чале з Васілём Шуйскім. Аднак ці сапраўды была атручана Алена, на той час ніхто не меў пэўнасці. Калі ў 1994 годзе даследавалі яе рэшткі, выявілася, што ў целе маецца шмат ртуці. Але ці лекі гэта, ці атрута, то да праўдзівай праўды так і не дайшлі. Дарэчы, Шуйскія расправіліся з фаварытам Алены Васільеўны князем Аўчынай-Целяпнёвым-Абаленскім. Праз 7 дзён пасля смерці Алены ён апынуўся ў турме, дзе неўзабаве і памёр.

Пахавалі маці Івана Грознага ў Вазнясенскім жаночым манастыры Крамля (згодна з традыцыяй княгіню аб’явілі манахіняй), дзе знаходзілі спачын вялікія княгіні і царыцы. Сыну яе Івану на той час было 8 гадоў. Застаўся поўным сіратой. Ужо 5 гадоў лічыўся вялікім князем маскоўскім і ўсяе Русі. Да пасады першага цара і гаспадара ўсяе Русі заставалася яшчэ 9 гадоў. А ўсяго на высокім пасадзе Іван IV Васільевіч Грозны знаходзіўся больш за 50 гадоў (са сваіх 53, якія пражыў на гэтым свеце). Палову гэтага тэрміну Расія правяла ў ваенных баталіях. Дарэчы, пры жыцці Івана не называлі Грозным, адбылося гэта пазней, з падачы даследчыкаў рускай гісторыі.

І яшчэ адна дэталька. Падчас царавання Івана Грознага ў Масковіі запачаткавалася кнігадрукаванне. Сам цар выступіў непасрэдным яго арганізатарам. І што цікава, сваіх першадрукароў знайшоў ён на землях Вялікага Княства Літоўскага, на беларускіх землях. Імі сталі Іван Фёдараў (Федаровіч) і ягоны паплечнік Пётр Мсціславец з Мсціслава, якія ў 1564 годзе выдалі першую кнігу “Апостал”. Але гэта было на 47 гадоў пазней за першую друкаваную на старабеларускай мове кнігу “Псалтыр”, выдадзеную ў Празе ў 1517 годзе Францыскам Скарынай.

*(Працяг будзе.)*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



## Александр ГРИГОРОВ:
# «Рот мы никому не закрывали…»

*Экс-министр спорта и туризма рассказал «Народной Воле», почему сегодня в спорте нужен диалог. И не только в спорте.*

– Выступление на любых спортивных международных соревнованиях – это демонстрация страны, – говорит Александр Владимирович. – У кого-то одни ценности, у других – противоположные взгляды, но хочу сказать о другом. Я восемь лет работал заместителем министра спорта и четыре года возглавлял это ведомство. И все это время лично разговаривал с каждым спортсменом. С каждым! И люди мне высказывали на аттестации всё: свои взгляды, позицию, претензии. И мы никому не закрывали рот – и довольным, и недовольным.

Сейчас я не знаю, кто общается в министерстве со спортсменами, но вижу, что нет двустороннего контакта между чиновниками и спортсменами.

**– Провалили идеологическую работу?**

– Может быть даже, и так. Потому что нарушены контакты между спортсменами, тренерами и администрацией. У нас в свое время тоже было много недовольных, но мы всегда находили приемлемые решения. Таких конфликтов, как сегодня, не было, хотя и раньше в стране проходили и президентские выборы, и парламентские. А знаете почему? Потому что, как уже говорил, персонально работали с каждым. И вникали в проблемы каждого.

Кроме того, я всегда говорил, что лучший идеолог и психолог – это личный тренер. Он знает, чем дышит его подопечный, какое у него семейное положение, с кем общается, как учится.

Повторюсь: среди молодежи всегда были чем-то недовольные. Ну так надо садиться и с людьми беседовать. Сегодня любой имеет право слова. Вы же человеку не закроете рот, правильно? Высказались и высказались, это их дело.

**– С подачи Министерство спорта и туризма по сути уже ушел из большого спорта серебряный призер Олимпиады Андрей Кравченко, который пока не собирался оставлять спорт и готовился к Играм в Токио. Это нормально, когда спортсмена такой величины убирают за его гражданскую позицию?**

– Андрея я очень хорошо знаю и хочу сказать, что государство в него вложило очень много. Кравченко лечился в Финляндии, оплачивали операции… И не думаю, что он должен быть обижен чем-то, когда я руководил процессом в Министерстве спорта. Андрей – прекрасный парень, интеллигентный, умница.

Не знаю точно нынешнюю ситуацию, но опять-таки – если в отношениях что-то не устраивает, то нужно садиться и разговаривать. Нет разговора – нет движения в вперед.

**– Андрей говорит, что к нему из Минспорта даже никто не обращался. Просто поставили в известность…**

– Так о чем тогда можно говорить? Я в свое время олимпийского чемпиона Андрея Арямнова и его тренера снял с зарплаты, но тогда на это была веская причина: спортсмен несколько раз попался нетрезвым за рулем. Это было несовместимо с олимпийскими принципами. Ведь чемпионы – это идолы, на них должна равняться молодежь.

А в истории с Андреем Кравченко, конечно, нужно было разбираться. Мне кажется, не очень красиво сводить таким образом счеты. В свое время и с хоккеистом Вячеславом Фетисовым была похожая история. И чем это закончилось? Да ничем! Фетисов поиграл в НХЛ, вернулся домой, был министром спорта, депутатом Госдумы. А чего добились те, кто его прессовал?

А поэтому нужен диалог, но тут есть еще один момент. Ведь для того, чтобы разговаривать, те, кто управляет большим спортивным цехам, должны владеть темой. Быть профессионально подготовленными людьми, а не с растопыренными пальцами бегать и кричать: «Давай-давай, вперед-вперед!»

Не буду называть фамилию, но один руководитель нашего спортивного ведомства пришел как-то к спортсменке перед финальной стрельбой на Олимпийских играх и тоже требовал: «Давай-давай!» Она ему и дала – в «молоко».

Так вот я хочу сказать, что Министерство спорта и спортсмены – это сложный организм. В руководство должны приходить профи. А криками и запретами результата не достигнешь. Людям нужна мотивация. Посмотрите, какие у белорусских спортсменов были раньше результаты и какие сейчас…

**– Стало известно, что решение по выплатам президентских стипендий каждой кандидатуре будет приниматься Министерством спорта в индивидуальном порядке. На ваш взгляд, «неблагонадежных» могут лишить этих самых стипендий?**

– Мое мнение: во главу угла должен быть поставлен спортивно-технический результат. Нужно обращать внимание, на что способен спортсмен, должно быть обязательство на Олимпиаду. У нас сейчас 73 лицензии. А на Игры в Пекине было 234. Стало в три раза меньше! Так что, честно говоря, перед Играми радоваться особо нечему…

**Алесь СИВЫЙ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Сяргей ДАЛІДОВІЧ:
# «Сумленных усё роўна больш!»

*Вядомы беларускі лыжнік заклікаў дапамагчы тым, хто трапіў пад рэпрэсіі.*



Славуты беларускі лыжнік **Сяргей Далідовіч** – удзельнік сямі Алімпіяд! Трапіць на апошнія Гульні ў паўднёвакарэйскі Пхёнчхан яму дапамагала літаральна ўся краіна.

Пасля таго як Федэрацыя лыжных гонак адлічыла спартсмена са зборнай, ён вырашыў рыхтавацца да Гульняў самастойна, а грошы на трэніроўкі (каля 15 тысяч долараў) сабраў праз краўдфандынг.

*“Некалькі гадоў таму людзі дапамаглі мне і сабралі грошы на падрыхтоўку да Алімпіяды ў Паўднёвай Карэі,* – піша Сяргей зараз. – *Тады я яшчэ раз пераканаўся, што ў гэтым наша сіла – менавіта разам мы можам многае.*

*Кожны з нас бачыць, што сумленныя людзі ў Беларусі губляюць працу ці неяк яшчэ пакутуюць з-за сваіх перакананняў. Асобны рэспект ратавальнікам на вадзе – мой бацька стаяў ля вытокаў Аршанскага таварыства ратавальнікаў на вадзе, ён падтрымаў бы іх дзеянні на Камсамольскім возеры. Бацька, дарэчы, быў узнагароджаны медалём за выратаванне тапельца.*

*Сумленных людзей усё роўна больш, я ведаю! Зараз я прапаную дапамагчы ім, як некалі дапамаглі мне. Ёсць праект “Хуткая узаемадапамога” – праз яго можна дапамагаць працай, навучаннем ці наўпрост грашыма, а не праз фонды. Добрым людзям прыйдзе ваша дапамога адразу ж, як вы яе адправіце”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Надзея СКАРДЗІНА:
# «Хто пасля такога захоча ехаць у Беларусь?»

*Вядомая беларуская біятланістка выказалася пра падзеі ў Беларусі.*

Нагадаем, што **Надзея Скардзіна** ў чэрвені 2018 года аб’явіла пра завяршэнне прафесійнай кар’еры ў біятлоне. Апошні раз біятланістка выступіла ў “Гонцы легенд” у Раўбічах у лютым 2019 года, калі з вялікага спорту праводзілі яе і Дар’ю Домрачаву.

Акрамя алімпійскага золата 2018 года ў эстафеце Надзея заваёўвала Кубак свету ў індывідуальных гонках, шэсць разоў узнімалася на п’едэстал у індывідуальных кубкавых гонках і сем разоў – у кубкавых эстафетах. Акрамя таго, яна стала бронзавым прызёрам Гульняў у Сочы.

Пасля завяршэння кар’еры Надзея Скардзіна выйшла замуж за швейцарскага біятланіста **Марціна Ягера,** нарадзіла сына. Зараз сям’я жыве ў Швейцарыі.

*“Я пражыла ў Беларусі сямнаццаць гадоў, і гэта мая краіна,* – распавяла Надзея ***pressball.by***. – *Сачыла за падзеямі яшчэ да выбараў, калі толькі пачалі з’яўляцца тыя, хто хацеў зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты. Ужо тады абстаноўка напальвалася, стала неспакойная. Пацярпелі нават тыя, хто проста стаяў у чарзе ў краму нацыянальнай сімволікі...*

*Я асабіста ведаю людзей, якія хацелі стаць назіральнікамі на выбарах, але не праходзілі ў склад камісій, – ніводны з маіх знаёмых туды не прайшоў. Гэта таксама нагнятала абстаноўку. Але тое, што здарылася потым, – мне наогул было цяжка ўявіць такое!*



*Беларусі нанесены значны іміджавы ўдар. Калі раней былі нейкія намаганні дыпламатаў, яны расказвалі пра нашу краіну як пра бяспечнае і прыгожае месца ў цэнтры Еўропы, то зараз усе намаганні зведзены на нуль. Замежныя СМІ напоўнены рэпартажамі і фотаздымкамі, якія выклікаюць сапраўдны шок. Хто пасля такога захоча ехаць у Беларусь?*

*Дарэчы, швейцарскі барэц, які прыехаў на зборы ў Мінск, вырашыў прагуляцца па горадзе і ў выніку правёў шэсць сутак у ізалятары часовага ўтрымання. Але яму пашанцавала, калі зразумелі, што замежнік. Умяшаўся міністр замежных спраў Швейцарыі, беларускі міністр замежных спраў Уладзімір Макей як быццам паспрыяў.*

*Для мяне відавочна, што нашы людзі не хочуць гвалту. Яны выходзяць выключна на мірныя пратэсты – пра гэта кажуць мае знаёмыя і сябры. Людзі толькі патрабуюць справядлівасці. Яны не робяць нічога дрэннага, яны проста выходзяць на вуліцу – а супраць іх АМАП і вайскоўцы.*

*Мне здаецца, нам патрэбны яшчэ адны выбары. Як у спорце: калі ёсць прэтэнзіі да спрэчнага моманту, ён перагульваецца. Гэта называецца “спрэчны мяч”. Адсутнасць жа дыялогу – гэта шлях у нікуды. Самае страшнае, што ўсё больш людзей губляюць веру ў законнасць. Таму нам вельмі патрэбны “спрэчны мяч”!”*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Лес на грыбы не скупіцца»



**Па гарызанталі:** 1.Невялікі клён. Лічылася, што гэтае дрэва прыносіць шчасце і каханне. 6.У верасні … просіць восень у госці (прык.). 11.Сукупнасць мерапрыемстваў па арганізацыі і вядзенні лясной гаспадаркі. 12.Работнік апарату. 13.Прадстаўнік групы народаў, што насяляюць краіны Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі. 15.Адначасовы выстрал. 16.Спосаб хады, бегу каня. 17.“Лес на грыбы не скупіцца, // Пуні хмялеюць ад …” – з верша М.Танка “У беларускую восень”. 18.Пастанова вярхоўнага органа ўлады. 19.Прывабнасць, чароўнасць. 20.“Плячыст цар-дуб! // Яго сукі, // Што ў … рыштаванні” – з верша П.Броўкі “Цар-дуб”. 21.Драпежная птушка. 22.Завод па першаснай апрацоўцы лясных матэрыялаў. 29.Забеспячэнне жылых дамоў і прадпрыемстваў гарачай вадой і парай. 30.Краіна, дзяржаўны герб якой упрыгожвае кляновы лісток. 31.Смалісты кавалак дрэва.

**Па вертыкалі:** 2.У верасні і … на дрэве не трымаецца (прык.). 3. …, …, аддай маю сілку (прык.). 4.Лясная паласа – усяму полю … (прык.). 5.У верасні адна … – ды і тая горкая рабіна (прык.). 6.Дарослы самец дзіка. 7.Уменне, выпрацаванае вопытам. 8.Месца, заслоненае чым-небудзь ад сонца. 9.Сур’ёзнасць, засяроджанасць. 10.Прадпрымальнік у галіне лясной прамысловасці. 14.“Будзе тут …, // Будзе тут рабінка, // Будзе клёну горстка, // Будзе і калінка” – з верша Я.Купалы “Перад Сёмухай”. 15.Тое, што і зарубка, зробленая на дрэве. 22.Рака ў Францыі. 23.Ліпкі сок, які выдзяляецца хвойнымі дрэвамі. 24.Пісьмовая просьба аб чым-небудзь. 25.Месца, дзе пасвяць жывёлу. 26.“Бацька грае, сын басуе, // ... замуж галасуе. // Бацька жыта прадае, // Дачку замуж аддае” (прыпеўка). 27.Назва возера і вёскі ў Браслаўскім раёне. 28.Тая, што жне сярпом.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Клёнік. 5.Сініца. 11.Лесаўпарадкаванне. 12.Апаратчык. 13.Араб. 15.Залп. 16.Алюр. 17.Сена. 18.Указ. 19.Чары. 20.Неба. 21.Арол. 22.Лесазавод. 29.Цеплазабеспячэнне. 30.Канада. 31.Смаляк.

**Па вертыкалі:** 2.Ліст. 3.Ніўка. 4.Краса. 5.Ягада. 6.Сякач. 7.Навык. 8.Цень. 9.Глыбакадумнасць. 10.Лесапрамысловец. 14.Бярозка. 15.Засечка. 22.Луара. 23.Смала. 24.Заява. 25.Выпас. 26.Дачка. 27.Опса. 28.Жняя.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

ФУТБОЛ

# Выніковы тур

*Адбыліся матчы 23-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Варта адзначыць, што гэтым разам каманды парадавалі балельшчыкаў галамі – у сямі матчы было забіта аж 37 мячоў!

Вось вынікі: “Мінск” – “Гарадзея” – 3:0, “Рух” (Брэст) – “Нёман” (Гродна) – 2:3, БАТЭ (Барысаў) – “Смалявічы” – 5:2, “Шахцёр” (Салігорск) – “Віцебск” – 5:0, “Дынама” (Мінск) – “Дынама” (Брэст) – 2:4, “Белшына” (Бабруйск) – “Іслач” (Мінскі раён) – 2:3, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – “Славія” (Мазыр) – 4:2.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шахцёр | 23 | 13 | 7 | 3 | 43–13 | 46 |
| БАТЭ | 23 | 14 | 4 | 5 | 49–23 | 46 |
| Нёман | 23 | 12 | 5 | 6 | 31–22 | 41 |
| Тарпеда-БелАЗ | 23 | 10 | 8 | 5 | 36–29 | 38 |
| Іслач | 23 | 12 | 2 | 9 | 36–33 | 38 |
| Энергетык-БДУ | 22 | 10 | 4 | 8 | 32–32 | 34 |
| Рух | 23 | 8 | 9 | 6 | 35–27 | 33 |
| Дынама (Мн) | 22 | 10 | 3 | 9 | 26–19 | 33 |
| Дынама (Бр) | 21 | 10 | 2 | 9 | 37–27 | 32 |
| Віцебск | 23 | 7 | 9 | 7 | 23–28 | 30 |
| Мінск | 21 | 7 | 4 | 10 | 27–40 | 25 |
| Славія | 21 | 6 | 6 | 9 | 29–41 | 24 |
| Слуцк | 21 | 6 | 3 | 12 | 24–37 | 21 |
| Гарадзея | 23 | 5 | 5 | 13 | 19–38 | 20 |
| Белшына | 23 | 5 | 4 | 14 | 26–44 | 19 |
| Смалявічы | 21 | 3 | 5 | 13 | 23–43 | 14 |

**P.S.** *Матч тура “Энергетык-БДУ” (Мінск) – “Слуцк” перанесены на 30 верасня.*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 14.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 040 экз. Заказ № 2406.